


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 верасня 2001 года
№ 39 (336)
Выходзіць па пятніцах

ТУ ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Камунізму паменела

**МЯДЗЕЛ.** Птушкафабрыка «Зара камунізму» змяніла назву на «Новая зара». Цяпер з «камуністычных» назваў сельгаспрадпрыемстваў у раёне застаўся толькі калгас «Шлях да камунізму».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Бібліятэкі пераязджаюць

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёння запланаванае ўрачыстае адкрыццё філіяла №1 цэнтральнай гарадской бібліятэчнай сістэмы. Яна пераязджае з вуліцы Касманаўтаў на вуліцу Будаўнікоў. А на Касманаўтаў пераедзе філіял №5.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Ізноў шалёныя звяры

**МЯДЗЕЛ.** У двор да жыхара вёскі Гняздзішча прыйшла ліса, якую неадкладна задушыў сабака. Пазней высветлілася, што ліса аказалася шалёнай. Сабаку давялося забіць, правесці вакцынацыю іншай жывёлы. Ад пачатку года гэты ўжо трэці выпадак з'яўлення ў раёне шалёных звяроў. Дагэтуль траплялiся шалёныя янот і кот.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Новыя працоўныя месцы

**СМАРГОНЬ.** На РУП "Смаргонскі агрэгатны завод" пачала працаваць новая вытворчасць. Расказвае намеснік дырэктара па вытворчасці **Мар'ян Каўбаснік**:

– Дадалося каля 100 адзінак абсталявання, значыць, павялічыцца аб'ём вытворчасці, будуць дадатковa задзейнічаныя людзі. Прыкладам, працуюць ужо 52 новыя чалавекі. Лічу, гэта вялікі плюс як для прадпрыемства, так і для горада.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Вёскі з тэлефонамі

**МЯДЗЕЛ.** У пачатку кастрычніка ў вёсках Януковічы, Барысы, Яцыны, Фалевічы будуць устаноўленыя тэлефоны. Як расказаў начальнік раённага вузла электрасувязі **Валерый Койра**, плануецца ўстанавіць каля 8 апаратаў. У кожнай вёсцы тэлефоны будуць спараныя, бо кабельная лінія праводзіцца толькі адна.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Негрыбная знаходка

**МЯДЗЕЛ.** У мінулую суботу ранішні грыбнік знайшоў у лесе каля вёскі Лук'янавічы цела 31-гадовага жыхара раёна з прыкметамі гвалтоўнай смерці. Устаноўлена, што знікла і машына ахвяры – белы «Фольксваген–Джэта».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Навучанне выцінанцы

**АСТРАВЕЦ.** Учарашнім днём бібліятэкары, некаторыя іншыя работнікі культуры вучыліся старадаўняму мастацтву выцінанкі. Спецыяльна для гэтага з Гродна прыязджаў метадыст абласнога цэнтра народнай творчасці **Аляксандр Аўчыннікаў**.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

У сувязі з правядзеннем пуцявых работ сёння адмяняюцца электрацягнікі адпраўленнем на Мінск у 15-39 і прыбыццём у Маладзечна ў 17-24;

1 кастрычніка, у панядзелак, – адпраўленнем 13-54, прыбыццём 12-59;

4 кастрычніка, у чацвер, – адпраўленнем 13-54, прыбыццём 14-14.





## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 29 верасня**

**Мінск**
2 – 9°С (уначы)
14 – 16°С (удзень)



**Вільня**
6°С (уначы)
15°С (удзень)



**Нядзеля, 30 верасня**

**Мінск**
1 – 10°С (уначы)
10 – 17°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
17°С (удзень)



# На жаль, гэта не кіно




Пра жахі забойстваў большасць з нас даведваецца па кінафільмах. Але ёсць не менш трагічнае жыццё.

Фота INEX/ProMedia.

**МАЛАДЗЕЧНА. Судовая калегія па крымінальных справах Мінскага абласнога суда за наўмыснае забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю, прыгаварыла гараджаніна Млынарчыка да 16 год пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.**

Здарылася ўсё напачатку вясны, калі адным першым сакавіцкія дні нагадваюць пра хуткую вясну, іншыя ж не заўважаюць анічога вакол з прычыны чарговай банальнай п'янкі. Трэццяга сакавіка Млынарчык разам з двума знаёмымі і сужыцелькай у яе кватэры па вуліцы Ясінскага «паляпшалі ўражанне ад жыцця» з дапамогай спіртнога.

Зрэшты, кампанія падабралася, як гэта бывае, роўная – любілі спіртное ўсе. Нават сужыцелька. Млынарчыка ж літаральна 1 студзеня амаль на два месяцы накіроўвалі ў наркалагічнае аддзяленне псіхбальніцы. Тады – яму падавалася – ён хацеў пазбавіцца алкагольнай залежнасці. Калі вярнуўся, праз некаторы час ізноў «развязаў».

У той злашчасны дзень яны садзіліся за стол не раз. І калі **Кедраў** не надта ветліва выказаўся ў адрас 13-гадовай дачкі гаспадароў **Насці** (пачаў пагражаць і патрабаваць грошы) Млынарчык ударыў яго па твары. Бойку ў зародку спыніў яшчэ адзін госць – **Воранаў**. «Байцы» супакоіліся, пасля чаго ён сышоў. А тыя прадоўжылі занятак, ад якога адарвала спрэчка, – п'янку.

Неўзабаве сабутыльнікі зноў пачалі спрачацца, сварыцца. У нейкі момант Млынарчык выйшаў на кухню, адкуль прыйшоў ужо з нажом. **Палявая** спрабавала перашкодзіць нецвярозаму мсціўцу, аднак той, натуральна, яе не слухаў.

Восем удараў у тулава і шыю не пакінулі ахвяры шанцаў на жыццё. Колата-рэзаныя раненні (у тым ліку, пранікальныя ў вобласці шыі, грудзей і жывата) пашкодзілі ўнутраныя органы. Кедраў сканаў на месцы, аднак пакуты яго, як мяркуюць эксперты, былі невыносныя. Труп Млынарчык выцягнуў на балкон і скінуў з трэцяга паверха ўніз.

У судзе ён сцвярджаў, што тыя падзеі згадвае урыўкамі. Помніў, як на кватэры сваёй сужыцелькі Палявой пачалі ўчатырох піць. Неўзабаве яму стала млосна, і ён выпіў таблеткі, што напярэдадні пакінулі для яго ўрачы псіхбрыгады. Далейшае не памятае. Апрытомнеў толькі тады, калі ў кватэры з'явіліся работнікі міліцыі. Нанясенне Кедраву цялесных пашкоджанняў не адмаўляў, але вось пра прычыны гэтага нічога сказаць не мог. Карціну давялося аднаўляць з дапамогай Палявой.

Імёны ўсіх асоб з этычных меркаванняў змененыя.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Фотаапытанне маладзечанцаў

# З кім вы сядзелі ў школе за адной партай?



**Таццяна Мартынава, Маладзечанскае аддзяленне БХК:**

– З лепшай сяброўкай **Кацяй Алексійчук**. Мы з другога класа СШ №1 разам былі. Яна скончыла палітэхнікум. Цяпер часам сустракаемся, стасункі падтрымліваем, хаця жыццё, натуральна, прынесла нам новыя знаёмствы, новыя заняткі і захапленні.



**Віталь Іваноў, пенсіянер:**

– Я школу скончыў у 1957 годзе. Сядзеў за партай з рознымі людзьмі – **Жэнем Смірновым, Юрам Трацяковым**, прыкладам. Вучыўся я ў Калінінскай вобласці, 30 год там не быў, бо ніякай радні не засталося. Таму пра цяперашні лёс аднакласнікаў не ведаю.



**Любоў Дарашэнка, прыбіральшчыца:**

– Даўно тое было, але ж помню ўсё цудоўна. Я вучылася ў Мыслевічах. А мая былая суседка па парце **Жэня** са школай надоўга не развіталася – атрымала вышэйшую адукацыю і доўгі час была дырэктарам школы ў Маладзечне **Яўгеніяй Вірынскай**.



**Валерый Маркелаў, журналіст:**

– Я заканчваў Гервяцкую СШ, што на Астравеччыне. Мой былы сусед па парце адседзеў 10 год за забойства па неасцярожнасці. Пасля **Валодзя** скончыў Віленскую акадэмію мастацтваў. Жыве і працуе ў Вільні. Жонка, двое дачкі.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ АНОНС

## Сезон пачынаецца з «Вечара»

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 верасня Мінскі абласны драматычны тэатр пачынае свой новы тэатральны сезон. Па традыцыі, прэм'ерай.**

На гэты раз калектыў падрыхтаваў меладраму "Вечар" па п'есе **Аляксея Дударава** ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі **Валерыя Мазынскага**.

П'еса ў свой час шырока ставілася па ўсім Савецкім Саюзе і з'яўляецца калі не самай лепшай, то адной з лепшых п'ес Дударава. Яна набывае новае сцэнічнае жыццё: летась з'явілася ў афішы тэатра-студыі "Вольная сцэна", а цяпер гэты матэрыял увасобілі і маладзечанцы. Мяркуючы па цёплым прыёме сталічнай публікі, п'еса нікольк не састарэла, а праблемы, узнятыя драматургам, не маюць часовых межаў, яны нібы скіраваныя ў вечнасць.

Што гэта сапраўды так, маладзечанцы і госці змогуць пераканацца на ўласныя вочы, калі пабачаць спектакль. Дадамо, што ў галоўных ролях занятыя артысты **Алена Рахмангулава**, **Віктар Багушэвіч** і **Алег Чэчанеў**.

**Віктар МІКАЛАЕЎ.**

### Рэпертуар на кастрычнік

## Мінскі абласны драматычны тэатр



**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **4**, чацвер 10-00 | **"Добры змей"** (лясная казка), Аляксей Якімовіч |
| **5**, пятніца 10-00 | **"Буслік супраць Кадука"** (музычная казка-трылер), Георгій Марчук |
| **9**, аўторак 11-30 | **"Проста Мяфа"** (пастараль для дзяцей), Алёна Палешчанкава |
| **28**, нядзеля 12-00 | **"Мымрык"** (казка-жарт для дзяцей і іх бацькоў), Валянцін Афонін |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **2**, аўторак 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| **3**, серада 19-00 | **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын |
| **6**, субота 17-00 | **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях), А. Дудараў |
| **10**, серада 19-00 | **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях), А. Дудараў |
| **11**, чацвер 19-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама), А. Дудараў |
| **16**, аўторак 19-00 | **"Без мяне мяне ажанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях), Франц Ксавер Кроц |
| **17**, серада 19-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча), Уладзімір Рудаў |
| **25**, чацвер 19-00 **26**, пятніца 19-00 | **"Саламея і яе амараты"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях), Сяргей Кавалёў |
| **31**, серада 19-00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях), Рабер Тама |

Маладзечна, вул. Чкалава, 7, тэл.: каса 52417, гал. адміністратар 61732.

■ КОНКУРСЫ

## Свята кветак

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у СШ №2 прайшлі гарадскія конкурсы букетаў "Кветкі восені" і юных аранжыроўшчыкаў "Квітней, Беларусь!", арганізаваныя цэнтрам пазашкольнай работы (ЦПР).**

У іх узялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх школ горада. Вучні афармлялі экспазіцыю з прыроднага матэрыялу, падарунак, складалі букет да пэўнай падзеі ў жыцці чалавека, дэманстравалі фларыстычныя касцюмы.

Пераможцамі сталі юныя аранжыроўшчыкі САШМ (кіраўнік **Н. Пазнякова**). На 2 і 3 месцы – каманды ЦПР і маладзечанскай беларускай гімназіі. А з 59 букетаў дыпломамі адзначаныя 6 лепшых (СШ №2, 6, 3, САШМ, №1, ЦПР). Пераможцы конкурсаў атрымалі граматы і прызы цэнтра пазашкольнай работы, інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы наваколля.

Свята кветак праводзілася ў горадзе ўпершыню.

**Наталля ШУЛЬЖЫЦКАЯ.**



Фота Дзмітрыя Харытонава.

**Арыгінальных упрыгожанняў, як у 10-класніцы маладзечанскай беларускай гімназіі Машы Храмцовай, на святе кветак было шмат.**

### Кінатэатр «Радзіма»



**Вялікая зала, верасень**

28 – 30 **"Тыгр, які крадзецца, дракон, што затаіўся"**, ЗША-Тайвань, баявік, прэм'ера 15-00, 17-10, 19-10

**"Гуд бай, Эмануэль"**, Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-10

**Для дзяцей**

30 – **"Тры таўстуны"**, Расія, казка 13-00

■ АДУКАЦЫЯ

## Адукацыя ў школьным узросце

**МАЛАДЗЕЧНА. Пры цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў існуе школа "Малышок" – карысная ўстанова для дзяцей 4-6 год.**

Педкалектыў у складзе 5 чалавек навучае харэаграфіі, выяўленчаму мастацтву, музыцы, развіццёвым гульням, англійскай мове. У "Малышку", як правіла, займаюцца дзеці, якія па тых ці іншых прычынах не наведваюць дзіцячыя садкі альбо іншыя дашкольныя ўстановы.

Педагогі школы ўпэўненыя, што веды, набытыя ў "Малышку", не зашкодзілі б і выхаванцам дзіцячых садкоў. На ўроках музыкі дзеці вывучаюць элементы спеваў, элементарную ігру на музычным інструменце, ноты; педагог займаецца пастаноўкай голасу.

Што тычыцца заняткаў харэаграфіі, то тут у навучанні прысутнічаюць элементы класічнага і народнага танцаў, педагог вучыць прыгожа рухацца, назіраць за асанкай, пластыкай.

У праграме развіццёвых гульняў - гульнёвыя комплексы, дыскатэкі, інсцэніроўкі.

Эфектыўна ідзе вывучэнне англійскай мовы – у педагогаў ёсць чым зацікавіць дзяцей.

Школа "Малышок" карыстаецца поспехам: бацькі, бабулі, дзядулі, якія прыводзяць дзетак у школу, задаволеныя. Заняткі платныя, праходзяць тры разы ў тыдзень па вечарах – час, калі бацькі ёсць магчымасць суправаджаць дзяцей.

На думку бацькоў, дзеці ідуць у школу з задавальненнем. Тут яны знаходзяць сяброў, робяцца гаваркімі, разнявольваюцца, лепей ідуць на кантакт з іншымі дзецьмі і педагогамі-выхавацелямі. Самі бацькі, чакаючы канца заняткаў ва ўтульным калідорчыку, бывае, заводзяць паміж сабой знаёмствы альбо заўсёды знойдуць магчымасць падтрымаць цікавую гутарку.

**Юлія ШАВЫРА.**

## Да дня нараджэння Агінскага

**23 верасня ў Залессі прайшоў канцэрт, прысвечаны 236-м угодкам з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага.**

Гасцей прыехала шмат – з Маладзечна, Вілейкі, Ашмянаў...

Напрыканцы свята ўсіх частавалі святочным караваем. Скаўтам жыхары Залесся прынеслі яблыкаў.

**Валянцін ЦІШКО.**

■ КОНКУРСЫ

## Хто з пілой сябруе

**МЯДЗЕЛ. У Нацпарку «Нарачанскі» выўялялі лепшага па прафесіі. Удзельнічала больш за 20 леснікоў і лесарубаў, якія спаборнічалі ў дакладнай распілоўцы дрэва, зборцы-разборцы бензапілы (усяго было 4 практыкаванні).**

Лепшым аказаўся **Сяргей Бялькоіч** з Даўгінаўскага лясніцтва (яно таксама ўваходзіць у склад лесапаляўнічай гаспадаркі «Мядзел»). У жартаўлівым конкурсе – распілоўцы двуручнай пілой – перамаглі інспектары аховы прыроды **Часлаў Пісарчык** і **Генадзь Хвалько**. Другі год у гэтым конкурсе ім няма роўных.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Адпачываюць выратавальнікі

**МЯДЗЕЛ. У аўторак у нацыянальным дзіцячым летніку «Зубраня» пачаўся чацверты злёт юных выратавальнікаў-пажарных.**

160 дзяцей з усёй карыны будуць адпачываць і займацца па сваёй праграме, а ў сярэдзіне кастрычніка выявяць лепшых.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДНІ

29 верасня – **110 год з дня нараджэння А. Смоліча** (1891–1938), заснавальніка беларускай геаграфіі, прафесара, вядомага дзеяча навукі і культуры Беларусі.

30 верасня – **Дзень машынабудаўніка**.

**110 год з дня нараджэння О. Шміта** (1891–1956), вучонага-энцыклапедыста, падарожніка, грамадскага дзеяча.

**70 год з дня нараджэння** (1931) **Н. Гілевіча**, народнага паэта Беларусі, перакладчыка, фальклярыста, літаратуразнаўцы.

1 кастрычніка – **Міжнародны дзень музыкі**.

**Дзень пажылых людзей**.

**120 год з дня нараджэння М. Станюты** (1881–1974), беларускага жывапісца, педагога.

3 кастрычніка – **70 год з дня нараджэння** (1931) **І. Савельевай**, артысткі балета, педагога, народнай артысткі Беларусі.

■ ІМЯНІНЫ

**28 верасня**

**Праваслаўныя**: Акакія, Багдана, Іосіфа, Максіма, Мікіты, Парфірыя, Сцяпана, Фядота.

**Каталіцкія**: Вацлава, Марка.

**29 верасня**

**Праваслаўныя**: Людмілы, Віктара, Дарафея, Іосіфа, Ісака, Купрыяна.

**Каталіцкія**: Міхаліны, Міхала.

**30 верасня**

**Праваслаўныя**: Веры, Любові, Надзеі, Соф'і, Зянона, Ілы.

**Каталіцкія**: Соф'і, Гераніма.

**1 кастрычніка**

**Праваслаўныя**: Арыядны, Ірыны, Соф'і, Яўмена.

**Каталіцкія**: Дануты, Тэрэзы, Рэмігіуша.

**2 кастрычніка**

**Праваслаўныя**: Давыда, Засімы, Ігара, Канстанціна, Савація, Трафіма, Фёдара.

**Каталіцкія**: Дзіяніза, Тэафіля.

**3 кастрычніка**

**Праваслаўныя**: Васы, Агапіта, Алега, Астапа, Міхаіла, Фёдара.

**Каталіцкія**: Тэрэзы, Герарда, Яна.

**4 кастрычніка**

**Праваслаўныя**: Андрэя, Данілы, Дзмітрыя, Іосіфа, Іпата, Ісака, Мялеція, Яўсевія.

**Каталіцкія**: Разаліі, Францішка.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Лепш без гасцей

МЯДЗЕЛ. Ізноў непрыемнасці даставілі вясковым жыхарам цыганы. Тры цыганкі наведаліся ў вёску Пясочнае. Дзве пачалі загаворваць гаспадыню аднаго з дамоў, а трэцяя пайшла тымчасам у хату. Пасля такіх гасцей кабета не далічылася 75 тысяч рублёў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## 8 год за самасуд

МЯДЗЕЛ. Да васьмі год зняволення прыгавораны мясцовы пенсіянер. Даўнія непрыязныя адносіны былі ў яго з яшчэ больш пажылой суседкай. Аднаго дня не вытрымаў, абліў яе бензінам і падпаліў. Кабету выратавалі – падаспелі людзі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чытаем «РГ»

**Падпісацца на "Рэгіянальную газету" можна ў любым паштовым аддзяленні. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "РГ".**

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска**

*індэкс 63212*

**1 мес.** – 785 руб.
**3 мес.** – 2355 руб.

**Ведамасная падпіска** (з улікам ПДВ)

*індэкс 63369*

**1 мес.** – 3328 руб.
**3 мес.** – 9984 руб.

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь
АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета
63212 (63369) (індэкс выдання)
Колькасць
На 2001 год па месяцах
1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара
63212 (63369) (індэкс выдання)
ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета
Кошт падпіскі
Колькасць
На 2001 год па месяцах
1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Куды (індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

■ ПОСТФАКТУМ

# Люстэрка трэснула ...

## Беларускія СМІ, як і грамадства, раздзяліліся на два варожыя лагеры

**У ходзе нядаўняй прэзідэнцкай кампаніі беларускія дзяржаўныя СМІ, як ніколі раней, выявілі сваю існасць і сапраўднае прызначэнне ў сістэме адносінаў "дзяржава – грамадства – грамадзянін". З'яўляючыся агульнанацыянальным багаццем, "дзяржаўныя" газеты, тэлебачанне і радыё сталі фактычна адным са звёнаў цяперашняга дзяржаўнага апарату.**

Нам могуць запярэчыць, што ў перыяд выбарчых кампаній і само грамадства, і сродкі масавай інфармацыі раздзяляюцца ў сваіх сімпатыях па адносінах да кандыдатаў на ўладныя пасады. З гэтым можна пагадзіцца. Пры адной умове: калі гутарка ідзе пра дэмакратычнае грамадства з уласцівым яму плюралізмам думак і адсутнасцю страху за выказваемыя перакананні. Аднак немагчыма экспрапаліраваць дадзеную мадэль у грамадства, дзе большасць СМІ, у тым ліку, найбольш магутныя сродкі масавай камунікацыі – ТВ і радыё – цалкам захопленыя і падпарадкаваныя інтарэсам гэтай улады.

Менавіта такога роду дзяржава створаная на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь за апошнія сем год. І не дзіва, што яшчэ задоўга да прэзідэнцкіх выбараў цяперашняя ўлада падзяліла грамадства і сродкі масавай інфармацыі на "сваіх" і "чужых", на прыхільнікаў і праціўнікаў канкрэтнай асобы – А. Лукашэнкі.

Такім чынам, можна канстатаваць: "люстра грамадства" трэснула пры актыўным садзеянні ўлады, якая канстытуцыйна абавязаная забяспечваць узаемаразуменне і спакой у грамадстве.

### На службе ва ўлады

Выбары яшчэ не адбыліся, а назначаны старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Л. Ярмошына абвясціла, што такой бруднай выбарчай кампаніі яна яшчэ не бачыла. І з ёй варта пагадзіцца. Увесь той бруд, падман, якія можна было толькі прыдумаць, выліліся на "ворагаў" кандыдата ад улады праз так званыя дзяржаўныя СМІ: друк, тэлебачанне і радыё. У гэтай справе ім была гарантаваная абсалютная беспакаранасць.

Як і заўсёды, на пярэднім краі барацьбы з "радыкальнай апазіцыяй" знаходзіліся вядомыя прапагандзісты блакітнага экрана і радыёэфіру, а таксама іх саўдзельнікі – "рамеснікі" PR-тэхналогій з друку. Прыкладаў таму мноства. Чаго каштуе адна аперацыя "Белы бусел", растыражаваная сумніўна-законным шляхам на старонках "самай салíднай" газеты новага часу – "Советской Белоруссии". Канкрэтная размова на тэму гэтай публікацыі яшчэ наперадзе, але ўжо сёння можна сказаць, што кіраўнік "СБ" дапусціў парушэнне цэлага шэрагу прававых палажэнняў, у тым ліку, заканадаўства, якое рэгулюе дзейнасць сакрэтных службаў.

У любой іншай дзяржаве, нават у той, якая ледзь прасунулася па шляху дэмакратыі, гэтыя людзі даўно аказаліся б на лаўцы падсудных. У нас жа яны займаюць ганаровыя месцы на ўсемагчымых форумах, пасяджэннях, канферэнцыях, што арганізуюцца органамі ўлады. Яны абароненыя, узнагароджваюцца за свае прапагандысцкія "подзвігі".

Гаварыць пра асобныя парушэнні дзяржаўнымі СМІ нормаў Выбарчага кодэкса, Закона аб друку і іншага заканадаўства ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення выбараў не мае сэнсу, паколькі яны дзейнічалі па-за рамкамі заканадаўства. Даваць ацэнку падобнай дзейнасці трэба ў ходзе канкрэтных крымінальных і грамадзянскіх спраў. Сёння, па зразумелых прычынах, гэта немагчыма. Але ж надыдзе Заўтра...

У сваім імкненні патрапіць "гаспадарам" дзяржаўныя СМІ аказалі ім "мядзведжую паслугу", калі адмовіліся забяспечыць аднолькавы доступ апанентаў А. Лукашэнкі да друку. Яны цалкам перакрэслілі абавязацельствы, узятыя цяперашняй уладай перад ОБСЕ і ўсёй сусветнай супольнасцю. У выніку амаль увесь эфірны час, прысвечаны выбарчай тэматыцы, дастаўся аднаму вядомаму кандыдату (95% на радыё, 81% на тэлебачанні і 88% у дзяржаўнай прэсе). "Недаедкі" былі кінутыя двум іншым кандыдатам.

Пры гэтым іхнія выступленні, як правіла, цягнулі за сабой кампанію ганьбавання і шальмавання ў тых самых сродках масавай інфармацыі.

Ужо аднаго гэтага адступлення ад прапісных ісцін выбарчага права дастаткова для таго, каб выбары не былі прызнаныя сумленнымі, свабоднымі і справядлівымі.

### Рабілі ўсё, што маглі

Аўтары гэтага матэрыялу служаць інтарэсам прававой абароны незалежнай прэсы. Таму мы не хаваем сваіх прыхільнасцяў да агульнадэмакратычных каштоўнасцяў і сімпатыяў да дзейнасці нашых калег – незалежных журналістаў.

На наш погляд, беларуская дэмакратычная прэса зрабіла ўсё, што магла ў гранічна нядобразычлівым, можна сказаць, варожым становішчы, якое стварылі для іх прадстаўнікі ўладных структур. Часта дзеянні чыноўнікаў у адносінах да рэдакцый шэрагу незалежных выданняў цяжка было адрозніць ад звычайных разбойных нападзенняў з наступным грабяжом рэдакцыйнай маёмасці.

Як супрацьзаконнае ўмяшанне ў дзейнасць рэдакцый трэба расцаніць арышты і адбіранне тыражоў незалежных газет, беспадстаўныя праверкі "падаткавікамі" і органамі фінансавых расследаванняў.

Праяўленнем чыноўніцкага "беспредела" стала часовае закрыццё ў самую гарачую пару выбарчай кампаніі прыватнай друкарні "Мэджык", дзе друкаваліся многія незалежныя газеты. А вянцом дзяржаўнага ўмяшання ў справы СМІ з'яўляецца ўвядзення такога, здавалася б, забытага рудыменту мінулага, як цэнзура. Зноў, як у канцы 1994 года, шэраг беларускіх газет, у тым ліку, такая ўплывовая незалежная газета, як "Народная воля", выйшлі з праслаўтымі "белымі плямамі".




Фота IREX\ProMedia.

**Дзяржаўныя СМІ – аднолькавы погляд.**

Але ўлада пайшла яшчэ далей. Па надуманых падставах (за быццам бы паклёп у адносінах дзейнічаючага кіраўніка дзяржавы) узбуджаныя крымінальныя справы ў адносінах да рэдакцый газет "Рабочы", "Правінцыялка" і "Пагоня". У адносінах да апошняй пракуратура Гродзенскай вобласці паставіла пытанне аб спыненні яе дзейнасці. Пра якія адкрытыя выбары можна гаварыць у такіх умовах! Пакаранне і ўсёдараванне

Улада падзяліла грамадства і прэсу і выкарыстоўвае выпрабаваны выхаваўчы метад бізуна і перніка. Механізм "бізуна" запушчаны па поўнай праграме супраць незалежнай прэсы і дэмакратычных журналістаў.

"Пернікі" дажджом сыплюцца на дзяржаўныя СМІ. Сваёй беззаветнай адданасцю "справе партыі" яны зарабілі сабе індульгенцыю на любыя парушэнні заканадаўства і зневажанні нормаў журналісцкай этыкі. Яны перасталі быць журналістамі ў сапраўдным сэнсе слова, калі выйшлі з-пад дзеяння Закона аб друку, а ператварыліся ў штатных чыноўнікаў пры органах выканаўчай улады. Адпаведна сродкі масавай інфармацыі , у якіх яны працуюць, даўно і трывала зрабіліся прапагандысцкім рупарам "ведамства праўды", падкантрольнага, у сваю чаргу, прэзідэнцкай адміністрацыі.

Мы не сумняваемся, што "пуга" будзе свісцець над незалежнымі СМІ з яшчэ большай сілай – для ўлады, якая захавала свае пазіцыі, з'яўляецца смяротна небяспечнай любая аб'ектыўная і праўдзівая інфармацыя пра тое, што ў нас ёсць і што нас чакае.

### Каму выгадна?

Пытанне рытарычнае. Практыка дзейнасці дзяржаўнай прапагандысцкай машыны красамоўна сведчыць, што сістэма ўлады, пабудаваная на падмане народу, можа сябе захаваць, толькі працягваючы сваю ранейшую палітыку. Для гэтага ёй, як мінімум, неабходна: 1) далейшае ўзмацненне сілавых структур, і, у першую чаргу, спецыяльных падраздзяленняў, якія ахоўваюць бяспеку вярхоў улады; 2) развіццё сакрэтных службаў, павелічэнне колькасці паведамляльнікаў ("сексотов") з мэтай разбурэння дэмакратычнага руху і пастаяннага сачэння за яе лідэрамі; 3) пераразмеркаванне даходаў з узмацненнем жорсткасці ў адносінах дзейснай часткі насельніцтва; 4) стварэнне выгляду стабільнасці і дабрабыту з адначасовым запалохваннем насельніцтва пагрозай вайны, якая зыходзіць ад цывілізаваных дзяржаў, разгортваннем шпіёнаманіі і ўкараненнем у свядомасці простых грамадзян варожых адносінаў да іншадумцаў.

Без сумнення, у фарміраванні "новага парадку" важная роля будзе адводзіцца дзяржаўным сродкам масавай агітацыі і прапаганды (СМАП). У новых умовах ім належыць выконваць функцыю ідэалагічнай зброі за сваё самазахаванне.

* * *

Мы ўжо не раз абмяркоўвалі тэму: ці магчыма стварэнне ў Беларусі зоны маўчання? Пралічваючы ўсе варыянты, прыходзілі да высновы, што гэта будзе настолькі ненатуральна пры цяперашнім развіцці сусветных камунікатыўных сетак і геапалітычным становішчы нашай краіны, адкрытай усім вятрам, што ўсе спробы здзейсніць такую задуму дарэмныя. Яны могуць прывесці да далейшай страты рэшткаў аўтарытэту ўлады як унутры краіны, так і за яе межамі. Гэта прамы шлях да яшчэ большай ізаляцыі і дарэмнае марнаванне часу. Нарэшце, мы самі сябе пры гэтым выштурхоўваем з сусветнай супольнасці. А перад намі ж не зачыняюць дзверы ў еўрапейскі дом, нягледзячы на ўсе дзівосы "беларускага шляху развіцця".

Люстра, якое раскалолася, склеіць немагчыма. Добрыя гаспадары звычайна выкідваюць яго на сметнік і набываюць новае. У нашым выпадку "люстэрка грамадства" – гэта свабодная плюралістычная прэса. Толькі яна можа адэкватна адлюстроўваць падзеі, што адбываюцца ў нашым дзяржаўным і грамадскім жыцці, і выстаўляць на суд грамадскасці "праколы" дзейнічаючай улады. Пры выяўленні парушэнняў трэба выпраўляцца ўладзе, а не наракаць на "люстра", гэта значыць, на прэсу. Гэта даўно ўжо зразумелі ў краінах дэмакратыі. Час і нам задумацца.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**Юрый ТАПАРАШАЎ,**
**юрысты Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

■ ВЫСТАЎКІ

# Кітай у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Кітая.**

– Адміністрацыя музея звярнулася да трэцяга саветніка пасольства па культуры **Лі Джы**, каб ім прадаставілі гэтыя экспанаты, – расказвае загадчык аддзела навукова-масавай работы **Лідзія Курыловіч**. Выстаўкі праходзілі ў розных краінах свету і некалькіх гарадах Беларусі. Цяпер у Маладзечне. Ёсць і асаблівасць выстаўкі ў Маладзечне – вялікі падбор экспанатаў, у адрозненне ад ранейшых мерапрыемстваў, дзе былі прадстаўленыя толькі некаторыя часткі.

2 кастрычніка Кітай адзначае 52-годдзе стварэння КНР. У сувязі з гэтым у Мінску праводзіцца вялікая праграма.

Лідзія Курыловіч адзначае, што ў рабочыя дні наведвальнікаў няшмат, асноўны наплыў чакаюць на выхадныя. Спадзяецца, у першую чаргу, на моладзь.

Яна адзначае розную рэакцыю людзей пасля наведвання. Некаторыя проста паглядзяць і пойдуць. Тыя, хто заказвае экскурсію, застаюцца задаволеныя, бо пасля тлумачэння кожны прадмет напаўняецца сэнсам.

Усе экспанаты зробленыя сучаснымі майстрамі на аснове старажытных традыцый.

Выстаўка будзе працаваць да 20 кастрычніка.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



**Загадчыца аддзела навукова-масавай работы Мінскага абласнога краязнаўчага музея Лідзія Курыловіч расказвае пра адзін з экспанатаў. Прыкладам, збан, што справа на здымку, пакрываецца шматлікімі слаямі лаку (да 300). Традыцыйным колерам з'яўляецца чырвоны. Паслойная разьба дапамагае зрабіць рэальныя рэльефныя малюнкі. Прыкладам, такім чынам выкананы імператарскі трон дынастыі Цынь.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Папяровыя змеі – неад'емны атрыбут кітайскай гісторыі.**

■ КАНФЕРЭНЦЫЯ

# Майстэрня пачуццяў

**МАЛАДЗЕЧНА. У абласным драматычным тэатры прайшла канферэнцыя пад дэвізам "Школа, тэатр, моладзь". Пры святле пражэктараў адміністрацыя тэатра разам з прадстаўнікамі навучальных устаноў горада і раёна разважала пра выхаванне высокамаральнай асобы.**

Тэндэнцыя такая, што зала тэатра сёння не карыстаецца папулярнасцю сярод моладзі. І калі строгі настаўнік усё ж "заарканіць" некалькі вучняў на спектакль, то адразу прыходзіць шкадаванне. У такіх "аматараў" драмы подых мастацтва не кранае іх свядомасць. А прыбіральшчыцы яшчэ доўга даводзіцца змагацца з "выдаткамі культуры" няўдзячнага гледача.

Тэатр – майстэрня чалавечых пачуццяў, што прадстаўляе на сцэне недахопы і перавагі людзей. Артысты імкнуцца паказаць прыгажосць кахання, выклікаць агіду да сквапнасці, здрадніцтва.

Як жа перайначыць моладзь, абудзіць жаданне завітаць у глядзельную залу?

На сёння яе запаўняльнасць – 78% пры 150 месцах на стотысячны горад. Каб вырваць школьніка з абдымкаў заезджых цыркачоў, выказваліся пажаданні да развіцця рэкламы. Прапанавалася наладзіць сустрэчы з акцёрамі. Засцерагалі адміністрацыю ад шляху кінатэатра, які фарміруе аўдыторыю наказам зверху. Бізун яшчэ ніколі не нарадзіў адухаўлення. Ды і "шокавай тэрапіі" у рэфармаванні маральнай і культурнай свядомасці быць не павінна.

Тэатр – гэта люстэрка жыцця, што бачыла стагоддзі. І каб адбітак у люстэрку радаваў вока, неабходна мяняць яго да лепшага. Але перш чым пачынаць такія змены, патрэбна зірнуць на адлюстраванне сваёй душы, выправіць яе хібы. Можа, тады і воблік грамадства будзе іншы?

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# «Пахавалі» «Нафтан»

## 22.09 Нафтан (Наваполацк) – Маладзечна-2000 0:1 (0:0)

Арбітр – Мацюшаў (Мінск), 2000 гледачоў.

Гол: Міхалёў (78).

Турчыновіч (Макрыцкі, 69)
Міхалёў (кап.) Тартоўскі (Сідарэнка, 58)
Азаронак Мігас
Сысой (Багайчук, 83)
Ваўчок Кабельскі Муравейнікаў Бычкоўскі
Рубацкі

Папярэджанне: Кабельскі.

Лепшыя па версіі “РГ”: Міхалёў (пяты раз у сезоне), Мігас (чацверты), Муравейнікаў (другі).

Па дзеяннях “нафтанаўцаў” адчувалася, што, калі і ёсць у іх нейкі шанец сёлета выратавацца, то матч з маладзечанцамі – апошняя магчымасць пачаць гэта рабіць. Аднак выйшлі новапалачане на поле хутчэй не гуляць, а біцца.

Як у добрым спартыўным сэнсе, так і ў прамым хуліганскім, бо двойчы нанеслі сур’ёзныя пашкоджанні **Міхалёву**. Напрыканцы матча капітан адпомсціў саперніку найлепшым чынам – голам.

А да таго на працягу ўсёй сустрэчы галявых момантаў было зусім няшмат. **Людас Румбуціс** прасіў падапечных вельмі ўважліва дзейнічаць у абароне, а наперадзе гуляць як захочацца. Гаспадары толькі аднойчы рэальна пагражалі варотам **Рубацкага**, а госці раз-пораз, карыстаючыся сваёй перавагай у цэнтры поля, пераходзілі ў контратакі. То трое на дваіх, то чацвёра на траіх. Ну, а, калі забіваўся гол, быў хуткі выхад чатырох супраць двух. **Макрыцкі** (дарэчы, яго выхад на поле ў пары з **Сідарэнкам** значна абвастрыў гульню) завалодаў мячом на фланзе і ўвайшоў у штрафную, суправаджаемы, між іншым, абаронцам **С. Кабельскім**. Віталь не стаў пасаваць свабодным партнёрам, а прабіў па варотах. Атрымалася досыць добра: галкіпер, хаця і парыраваў мяч, але не накрыў яго – адбіў перад сабою. Міхалёў у гэтай сітуацыі аказаўся самым увішным і расстраляў неабароненыя вароты.




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Капітан ФК «Маладзечна-2000» Віталь Міхалёў у адным з дамашніх матчаў.**

Лакаматыў-96 – Нёман-Белкард 1:1, Белшына – Славія 2:0, Ведрыч-97 – Днепр-Трансмаш 1:2, Дынама (Б) – Шахцёр 2:1, Гомель – Дынама (М) 0:4.

| | |
|---|---|
| 1. Белшына | 45 |
| 2. БАТЭ (-1) | 41 |
| 3. Нёман-Белкард | 36 |
| 4. Дынама (М) | 34 |
| 5. Славія | 33 |
| 6. Тарпеда-МАЗ (-1) | 31 |
| 7. Шахцёр | 29 |
| 8. Днепр-Трансмаш | 29 |
| 9. Гомель | 27 |
| 10. Дынама (Б) | 23 |
| **11. Маладзечна** | **18** |
| 12. Лакаматыў-96 | 15 |
| 13. Ведрыч-97 | 7 |
| 14. Нафтан | 5 |

Бамбардзіры: Давыдаў (Нёман-Белкард) – 16, Кутузаў (БАТЭ) – 14.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### На гэтым тыдні гуляюць

**29.09 СКАФ (Мінск) – Смаргонь**

+2=2-3 7-11. У першым крузе 1:2 (Дзігілевіч) дома.

**29.09 Баранавічы – Забудова**

+0=0-1 1-4. У першым крузе 1:4 (Міpановіч) дома.

**29.09 16-00 (дубль) Маладзечна-2000 – Ведрыч-97 (Рэчыца)**

+1=0-0 2-1. У першым крузе 2:1 (Відрук, Дараховіч) на выездзе.

**30.09 16-00 Маладзечна-2000 – Ведрыч-97**

+6=0-5 19-9. У першым крузе 2:1 (Макрыцкі, Турчыновіч) на выездзе.

На стадыёне можна будзе набыць даведнік пра маладзечанскі футбол.

**03.10 16-00 Смаргонь – Баранавічы**

+2=0-1 7-5. У першым крузе 2:0 (Шпакоўскі, Шпілеўскі) на выездзе.

**03.10 16-00 Забудова – Верас (Нясвіж)**

+2=0-5 4-7. У першым крузе 0:1 на выездзе.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Пад якой шыльдай выступіць «Металург-ЈР»?

**МАЛАДЗЕЧНА. Існуюць значныя цяжкасці з фінансаваннем на сезон міні-футбольнага клуба. Няма яснасці нават з уплатай стартавага ўзносу ў 3 мільёны рублёў. Па словах галоўнага трэнера Сяргея Сафонава, ён у любым выпадку захавае сваю каманду, але пад якой шыльдаю яна будзе гуляць, і дзе будзе праводзіць свае дамашнія матчы, пакуль сказаць нічога не можа.**

Калі ў Маладзечне і дадуць залу ЗМК у бясплатную арэнду (на што ў Мінску разлічваць не даводзіцца), то зэканомленые будзе разоў у 30 меншае за ўсе выдаткі за сезон. Дапамогі ад гарадскіх структур на практычна няма.

Папярэдне аб’яўленая схема сезону. У вышэйшай лізе па-ранейшым будзе 14 каманд. Замест мінскага РТІ і віцебскага “Віцязя”, што летась пакінулі лігу, прыйдуць мінскі ”Белаграпрамбанк” і гамяльчане. Адмовіліся ад удзелу мінскія “Хемікс” і МЭСР. Замест іх будуць мінскі “Абсалют” і новая віцебская каманда, відаць, сфарміраваная на базе ранейшай.




Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Галоўны трэнер «Металург-ЈР» Сяргей Сафонаў за час работы ў Маладзечне добра зведаў на сабе тэндэнцыйнасць суддзяў. Вось і ў гэтым матчы ў зале маладзечанскага ЗМК ён выказвае свае прэтэнзіі да чалавека са свістком.**

Стартуе чэмпіянат 6-7 кастрычніка. Дакладныя даты тураў пакуль невядомыя. Нашу каманду чакае спачатку матч на выездзе з “Абсалютам”, а потым серыя гульняў з моцнымі сапернікамі. ”Сімург” (Мінск) – дома, МАПІД (Мінск) – на выездзе, ”Белаўтасервіс” (Наваполацк) – дома, “Дарожнік” (Фаніпаль) – на выездзе. Хаця дзе станецца той дом?

На турніры памяці **Аляксандра Пракапенкі** ўдзельнічаў фарм-клуб ВСОШ-21, у складзе якога былі маладыя гульцы леташняга “Металурга-ЈР”, а таксама **Бахур** і **Сіткевіч**. Перамаглі мінскі “Эканаміст” (Д2) – 5:0, згулялі ўнічыю з “Белаўтасервісам” і БДПА – па 2:2, саступілі ”Сімургу” – 2:3 і ў паўфінал не выйшлі. За зборную Мінска выступалі на турніры **Мацюк** і **Кузняцоў**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### Табло

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

МЯДЗЕЛ. У Капылі адбыўся чацверты чэмпіянат Беларусі па экідэне (марафонская эстафета). Ва ўзроставай групе 30–39 год другое месца заняў дуэт з Мядзела ў складзе **Андрэя Паспелава** і **Аляксандра Быкава**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

Шэрая чарада буйна прайграных маладзечанцамі матчаў скончылася, але яна вылілася ў наступныя антырэкордныя серыі. 6 паражэнняў на выездзе (таксама 6 было ў восьмым чэмпіянаце). 7 матчаў з прапусканнем трох і болей галоў (з іх 5 на выездзе). 3 матчы з прапусканнем чатырох галоў (усе на выездзе).

Цяпер ідуць безнічыйныя серыі. 9 матчаў увогуле (рэкорд – 15), 3 дома (11), 8 на выездзе (10).

**Віталь Бычкоўскі** ў маладзёжнай зборнай

Цяперашняя маладзёжная зборная Беларусі (гульцы 1979 г. н. і маладзей) страціла шанцы прабіцца ў фінальны турнір чэмпіянату Еўропы. Засталося правесці яшчэ адзін матч адборачнага турніру 5 кастрычніка ў Уэльсе.

Трэнеры зборнай выклікалі рыхтавацца да яго футбалістаў 1981 г. н. і маладзей, якім давядзецца гуляць у наступным “адборы”. Ён распачнецца праз год і будзе папярэднічаць чарговаму чэмпіянату Еўропы, а таксама Алімпійскім гульням.

У абноўлены склад “маладзёжкі” выкліканы Віталь Бычкоўскі з “Маладзечна-2000”. Там жа будзе і **Дзмітрый Молаш**, які два гады таму выступаў за нашу каманду, а цяпер гуляе ў складзе БАТЭ, прычым на тым тыдні даволі ўпэўнена персанальна прыхапіў самога **Андрэя Шаўчэнку** ў матчы Кубка УЕФА супраць “Мілана”.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**23.09 Смаргонь – Змена 0:0**

Склад: Кліменка, Карабінскі (Шпакоўскі, 46), Шагойка, Курак, Максіменка (Відук, 67), Шпілеўскі, Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Паркулевіч (Шаблінскі, 60), Кошаль (Якубіцкі, 60).

Дукса на 85 хвіліне не рэалізаваў пенальці.

**23.09 Забудова – СКАФ 2:1 (1:1)**

Галы: Татун (23), Саковіч (86); (35).

Склад: Мядзведзеў, Івашкевіч, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, М. Мятліцкі (Саковіч, 33), Урублеўскі (Кавальчук, 75), Грыхуцік, Садчанка, Татун, Чарнель, Ваўчок (Бяспалы, 66; Ан. Канапелька, 90).

16 матчаў запар не ведаюць паражэнняў смаргонцы. Прычым толькі тройчы былі нічые (і 13 перамог). Страта ачкоў у гульні са сталічным аўтсайдэрам аніяк не паўплывала на турнірнае становішча каманды. У зоне дасягальнасці “Лакаматыў” (дамашні матч у другім крузе выйграны 2:1), крыху паадстала галоўны канкурэнт “Вертыкаль” (дамашні матч з ёй 21 кастрычніка).

| | |
|---|---|
| 1. Лакаматыў | 61 |
| 2. Смаргонь (-1) | 58 |
| 3. Вертыкаль | 57 |
| 4. Баранавічы | 48 |
| 5. РВАР (-1) | 46 |
| 6. Пінск-900 | 44 |
| 7. Днепр (+1) | 43 |
| 8. Забудова | 39 |
| 9. Дынама-2 | 36 |
| 10. СКАФ | 35 |
| 11. Верас (-2) | 33 |
| 12. Рудзенск | 33 |
| 13. Гомель-2 (-1) | 31 |
| 14. Трактар (-1) | 31 |
| 15. Старыя Дарогі (-1) | 30 |
| 16. Пр. рэзервы (-1) | 24 |
| 17. Палессе (+1) | 4 |
| 18. Змена (+1) | 4 |

Бамбардзіры: Галавач (Вертыкаль) – 16; Асіпенка (Лакаматыў), Якубовіч (РВАР) – па 15; Міpановіч – 14.

■ ДУБЛЬ

**21.09 Нафтан – Маладзечна-2000 3:2**

Галы: Богуш (19), Захарчанка (39, 65); Смірноў (87, 88).

Склад: Сцепановіч (Асадоўскі, 46), Савіцкі, Пятроўскі, Альховік, Дрозд, Лявончык, Антановіч, (Абановіч, 78), Матусевіч (Багайчук, 46), Смірноў (кап.), Касцюк (Вільтоўскі, 46), Харэцкі (Макрыцкі, 46).

Як і ў матчы з брэсцкім “Дынама”, **Аляксандр Гармаза** з першых хвілін на поле выпусціў моладзь. Толькі гэтым можна патлумачыць прапушчаныя тры галы. Пасля перапынку выйшлі старэйшыя, і гульня выраўнялася. **Дзяніс Смірноў** у канцы сустрэчы двойчы прымусіў варатара гасцей выцягваць мяч з сеткі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

На прабег у Языль выязджалі маладзечанцы **Галіна** і **Аляксандр Кавалёвы**. Галіна перамагла разам з партнёршай у адмысловай эстафеце на 12 км і заняла трэцяе месца на 10 км у сваёй узроставай групе (30-39 год). Аляксандр на гэтай дыстанцыі быў таксама трэці (група 40-49).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### Анонс

21 кастрычніка ў Маладзечне пройдуць міждзяржаўныя спаборніцтвы 14 Нацыянальнага фестывалю бегу, якія выйшлі з добра вядомай усім “Языльскай дзесяткі” і апошнімі гадамі праводзяцца ў розных гарадах Міншчыны (летась Слуцк, пазалетась Салігорск). Мяркуецца ўдзел каля 5 тысяч чалавек, ад самых маленькіх да прызнаных майстроў бегу. У праграме самыя розныя дыстанцыі, сярод якіх старты на прызы такіх славутых спартсменаў як **Рамуальд Клім**, **Васіль Капцюх**, **Таццяна Ледаўская**. Лёгкаатлетычная траса пройдзе па цэнтры горада.

